ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Студзень-2, 2016

## ДЭПУТАТЫ І ПРАВЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ СПАЖЫЎЦОЎ

- Пазіцыя дэпутата Гушча

- Пазіцыя дэпутата Міхальковай



**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

01.12.2015 №115

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш зварот аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў», накіраваны на маё імя ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, разгледжаны.

Па сутнасці звароту паведамляю наступнае.

Парадак разгляду праектаў законаў Палатай прадстаўнікоў вызначаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь» і Рэгламентам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Пытанні ўдзелу дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у заканатворчым працэсе рэгламентаваны названымі вышэй заканадаўчымі актамі, а таксама Законам Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

Так, згодна артыкулу 97 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулу 42 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь» Палата прадстаўнікоў разглядае праекты законаў, унесеныя суб'ектамі права заканадаўчай ініцыятывы, вызначанымі ў артыкуле 99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Разгляд праектаў законаў, унесеных у Палату прадстаўнікоў, ажыццяўляецца, як правіла, у двух чытаннях. Пры разглядзе праекта закона ў першым чытанні абмяркоўваюцца канцэпцыя і мэтазгоднасць яго прыняцця.

Такім чынам, у выпадку ўнясення на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адпаведнага законапраекта ён будзе разгледжаны перш-наперш у рэдакцыі, прапанаванай суб'ектам права заканадаўчай ініцыятывы.

Тым не менш, Вашы прапановы, накіраваные на заканадаўчае замацаванне дадатковых гарантый забеспячэння балансу ўжывання дзяржаўных моў пры рэгуляванні адносін у вобласці абароны правоў спажыўцоў, не пакінуты мной без увагі і пры неабходнасці будуць абмяркоўвацца з улікам інтарэсаў народа, эканамічных і сацыяльных магчымасцей дзяржавы, іншых суб'ектаў адпаведных праваадносін.

З павагай,

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь
па Жыткавіцкай выбарчай акрузе № 39

Л.С.Міхалькова

**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ
вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск

**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
ул. Советская, 11, 220010, г. Минск

26.11.2015 № С-55

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

По сутнасці Вашага зварота адзначаю наступнае.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

Пунктам 9 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» устаноўлена, што інфармацыя, прадугледжаная пунктамі 1-8 гэтага артыкула, на беларускай або рускай мове выразным і разборлівым шрыфтам даводзіцца да ведама спажыўца ў дакументацыі, прыкладаемай да тавараў (работ, паслуг), на спажывецкай тары (упакоўцы), этыкетках або іншым спосабам, прынятым для асобных відаў тавараў (работ, паслуг).

Прапануемыя Вамі змяненні ў вышэй названы Закон маюць пад сабой падставу. Калі змяненні ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» будуць вынесены на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь мною яны будуць падтрыманы.

З павагай,

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу
Рэспублікі Беларусь — В.І.Гушча

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя “Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html

**Архіў УКантакце:**
http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA